# Голас Радзімы

22 студзеня 1987 г.
№ 4 (1990)

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



У апошнія дзесяцігоддзі вялікі мароз даволі рэдка гасцюе ў Беларусі. Сёлета—выключэнне. Вось ужо на працягу ўсяго студзеня трымаецца ў сярэднім па рэспубліцы тэмпература пад трыццаць градусаў.

Няпрошаны госць не застаў знянацку. Ні на адзін дзень не перапыняюцца заняткі ў навучальных установах ці праца на прамысловых прадпрыемствах, пастаянна падаецца цяпло і электраэнергія ў нашы кватэры.

У Чудзенічах, вёсцы пад Мінскам, якую вы бачыце на гэтым здымку, пакуль цішыня. І не дзіва: сярэдзіна дня. Дзеці — у школе. Дарослыя — на працы. Але праз нейкія дзве-тры гадзіны над комінамі ўзнімуцца высока ўгару слупы дыму, запалае агонь у печах дамоў, балазе паліва назапашана яшчэ з восені, заскрыпяць калодзежныя жураўлі і дзверы ў хлявах — трэба напаіць і накарміць жывёлу, абудзіць цішыню вясёлы смех дзяцей, што вярнуліся з заняткаў і выйшлі пакатацца на лыжах і санках. Адным словам, жыццё працягваецца і не спыняецца ні ў летнюю спёку, ні ў самыя моцныя маразы.

Фота К. ШАЛЯСТОВІЧА.





# І. «МІР» — ГАСПАДАРКА ВЯДОМАЯ



**«Наведванне вашага комплексу было вельмі цікавай і пазнавальнай справай для жывёлавода і палітыка з Аклахомы. Вы — піянеры ў гэтай справе. Жадаю поспехаў...» — такі аўтограф пакінуў амерыканскі сенатар Генры Белман пасля знаёмства з саўгасам-камбінатам «Мір», што ў Баранавіцкім раёне.**

**На Брэстчыне нямала гаспадарак, вядомасць якіх выйшла далёка за межы Беларусі. Саўгас-камбінат «Мір» — адзін з іх. Гэтае дасканалае па тэхнічнаму аснашчэнню жывёлагадоўчае прадпрыемства спецыялізуецца на вытворчасці мяса. У цэхах саўгаса ўтрымліваецца 15 тысяч галоў жывёлы. Сярэднясутачныя прыбаўкі ў вазе на адкорме перавышаюць тут 1 200 грамаў. Гэты паказчык, таксама як і нізкі сабекошт ялавічыны (усяго 98 капеек за кілаграм), якраз найбольш і ўразіў амерыканскага сенатара. Дарэчы, за 14-гадовую гісторыю існавання саўгаса-камбіната «Мір» тут пабывалі сотні замежных гасцей: журналістаў і дыпламатаў, спецыялістаў і дзелавых людзей...**

**Усе гэтыя гады ўзначальвае гаспадарку Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Дудук, аграном па прафесіі. У многім дзякуючы менавіта яго намаганням саўгас-камбінат «Мір» дасягнуў такога высокага ўзроўню развіцця.**

**Акрамя мяса, гаспадарка пастаўляе дзяржаве малако і збожжа. Ад кожнай каровы тут надойваюць амаль па чатыры з паловай тысячы кілаграмаў малака ў год. Гектар хлебнай нівы дае сёння мінімум 50 цэнтнераў збожжа.**

**НА ЗДЫМКАХ: дырэктар саўгаса-камбіната «Мір» Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр ДУДУК; гандлёва-грамадскі цэнтр пасёлка Мір; адна з лепшых работніц гаспадаркі Галіна ПІВАВАР.**

---

## ЧЫМІ ...КАМІ ЎЗВОДЗІЦЦА МІН...

# АЎТАРЫТЭТ БРЫГАДЫ

**У Мінску часта можна чуць замежную гаворку. Асабліва ў тых кутках, праз якія пралягаюць экскурсійныя маршруты. Турысты-іншаземцы праяўляюць вялікую цікавасць да сталіцы адной з савецкіх рэспублік. У тым ліку да яе сённяшняй архітэктуры — жылых дамоў, Палацаў культуры, школ, інстытутаў, кінатэатраў, музеяў, помнікаў, іншых сацыяльна-культурных збудаванняў.**

**Недзе ў канцы лета ля мемарыяла «Гораду-герою», прысвечанага Мінску і размешчанага на праспекце Машэрава, я сустрэў групу з Фінляндыі. Адзін з яе членаў, фін сярэдніх год, нечакана звярнуўся да мяне на даволі добрай рускай мове: «Какое величие!.. А знаете, это не только памятник Победе. Те, кто мемориал создавал и возводил, поставили его и себе...»**

Чамусьці захавалася ў памяці тая кароткая летняя сустрэча. Яна і падказала тэму для чарговага матэрыялу. «Голас Радзімы» ўжо згадваў пра адкрыццё напярэдадні святкавання 40-годдзя Вялікай Перамогі над фашызмам у другой сусветнай вайне мемарыяла «Гораду-герою», расказваў пра яго аўтараў — скульптара В. Занковіча і архітэктараў В. Раманенку, В. Крамарэнку, В. Яўсеева. А вось чыімі рукамі ўзводзіўся помнік?

Адказ знайшоў даволі хутка: «Будаўнічай брыгадай Мікалая Фінскага». Шчыра кажучы, прозвішча гэта мне ні пра што не гаварыла, было для мяне невядомым. У вялізным Мінску, які ўвысь і ўшыркі расце не па днях, а па гадзінах, сотні будаўнічых брыгад. На чале некаторых славутыя людзі горада — Героі Сацыялістычнай Працы. Фінскі сярод іх не значыўся. І ўсё ж было зразумела: даверыць узвядзенне такога адказнага і ганаровага аб'екта маглі не зусім радавому калектыву...

Сустрэча з ім адбылася праз некалькі дзён. На будоўлю, дзе працавала брыгада Фінскага, я трапіў у абедзены перапынак, калі рабочыя, сытна падсілкаваўшыся ў сталоўцы, адаграваліся пасля 20-градуснага марозу ў цёплых бытоўках. Замерла на гэты час будпляцоўка. З прарабам, маладым хлопцам, абышлі ўчастак, дзе некалі вырасце грандыёзнае збудаванне — Палац рэспублікі. А пакуль што тут, над разрытымі пластамі зямлі, маўклівыя звесілі доўгія шыі вялізныя вежавыя краны. Паўночны сівер вострымі іголкамі калоў твар. Зразумела, вельмі нялёгка працаваць пры такім надвор'і на адкрытым паветры. І як тут не пагадзіцца, што прафесія будаўніка — суровая і мужная!

На працу рабочыя вярталіся дысцыплінавана, акурат у час. Доўгі чалавечы ланцуг расцягнуўся па зімовай сцяжыне ад размешчаных пад адным дахам бытовак амаль да самага катлавана будаўнічага аб'екта. У спецвопратцы — валёнках, ватоўках, ахоўных касках — будаўнікі, як браты, знешне вельмі паходзілі адзін да аднаго. Я пільна ўзіраўся ў іх, маладых і пажылых, чакаючы, пакуль аднаго з іх спыняць воклічам: «Вось і Фінскі». У гэтым ланцугу з добрай сотні рабочых праходзілі міма мяне і шаснаццаць членаў яго брыгады.

— Мікалай Пятровіч!..

Калі па шчырасці, дык я прыйшоў на сустрэчу з брыгадай не для таго, каб са слоў яе членаў расказаць аб ёй. Літаральна за два дні ў гарвыканкоме, навукова-даследчым інстытуце, будкамбінаце, трэсце, упраўленні (арганізацыях і ўстановах, якія ведаюць ці займаюцца будаўніцтвам) мной было сабрана столькі звестак аб калектыве, што можна было напісаць матэрыял і без сустрэчы.

Ведаў я, напрыклад, што права на ўзвядзенне згаданага вышэй мемарыяла было прадастаўлена брыгадзе па выніках строгага завочнага конкурсу, у журы якога ўваходзілі самыя аўтарытэтныя будаўнікі — спецыялісты горада. Азнаёміўшыся з заданнем, рабочыя, па сведчанню гэтых жа спецыялістаў, адышлі ад традыцыйных прыёмаў і спыніліся на рэдкім у сусветнай практыцы, складаным метадзе (аднадушна потым адзначаным як найлепшы), які забяспечваў высокую якасць работ. Зараз галоўнага ініцыятара метада Мікалая Фінскага вылучылі на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР.

Чаму ж у завочным конкурсе так высока была атэставана працоўная дзейнасць брыгады Фінскага?

У той час, калі іншыя калектывы, набываючы сабе славу і прызнанне, хуткімі тэмпамі здавалі ў эксплуатацыю будынак за будынкам — жыллё, школы, дзіцячыя сады і яслі, магазіны — адным словам, цэлыя мікраёны з іх комплекснай забудовай, гэты застаўся ў цяні. Дзевяць гадоў Фінскі са сваёй брыгадай працаваў на адным месцы, нават на адным аб'екце, на ўзвядзенне якога дзяржава выдаткавала са свайго бюджэту звыш адзінаццаці мільёнаў рублёў. Але справа тут хутчэй не ў значнай суме капітальных укладанняў, асвоеных маленькім калектывам за непрацяглы, па сутнасці, тэрмін. А ў незвычайнай складанасці аб'екта — будынка будаўнічага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Сумесная творчая думка лепшых беларускіх архітэктараў стварыла непаўторны праект. Зразумець іх, вядома, можна было: узняць як прэстыж прафесіі наогул, так і свой уласны аўтарытэт перад будучымі калегамі. Ды і другая акалічнасць, якую таксама абавязкова патрэбна было ўлічыць, кіравала адначасова задумамі архітэктараў - прафесіяналаў: будынак факультэта адкрываў нашу сталіцу з боку Масквы.

Будаўнічаму трэсту, якому даручылі ўвасобіць праект у жыццё, задача ўяўлялася не менш цяжкай. Па ступені складанасці такі аб'ект для яго быў таксама першым у біяграфіі. Даверылі ўзвядзенне самай вопытнай брыгадзе, якую па жаданню калектыву ўзначаліў новы брыгадзір — 27-гадовы Мікалай Фінскі.

Трэст не памыліўся ў выбары брыгады. Не памылілася і брыгада ў новым лідэры. Малады брыгадзір, хаця і не меў за плячамі высокай прафесіянальнай адукацыі, акрамя вучылішча, у ліку першых у той час стаў кіраўніком рабочага калектыву новага тыпу, ініцыятарам перадавых метадаў і прыёмаў працы, заснаваных на творчым падыходзе да яе, прымяненні самых апошніх дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу ў будаўніцтве. Напрыклад, першым у рэспубліцы стаў працаваць з новым відам апалубкі, адметнай высокай абарачальнасцю. І як вынік: прадукцыйнасць працы калектыву на некаторых участках вырасла ў пяць — дзесяць разоў.

Калі ж у 1983 годзе 76-метровы будынак у самым канцы Ленінскага праспекта паўстаў перад жыхарамі беларускай сталіцы і яе гасцямі ва ўсёй сваёй прыгажосці, у прафесіянальных колах Мінска Мікалаю Фінскаму і яго брыгадзе адвялі, як належнае, высокае месца на п'едэстале аўтарытэтаў. Краіна таксама адзначыла брыгадзіра — узнагародзіла двума ордэнамі Працоўнай Славы.

...Сядзім мы ў адным з бытавых пакояў, надзвычай утульным, цёплым. Бачна, што адміністрацыя будаўнічага трэста клапатліва ставіцца да вытворчых умоў сваіх рабочых. Насупраць — касцяк брыгады: Міхаіл Аскірка, Пятро Кутэнка і сам брыгадзір.

Цяжка выдзеліць нешта асабліва запамінальнае ў знешнасці брыгадзіра. І разам з тым, здаецца, усё глыбока індывідуальнае—рухі, жэсты. Але галоўнае—думкі, на якія багаты кіраўнік рабочага калектыву. Праз некалькі месяцаў яму споўніцца сорак. Узрост, які ў народзе называюць «залатой сярэдзінай» чалавечага жыцця. Запал і памяркоўнасць, максімалізм і мудрасць, уласцівыя мяжы маладосці і сталасці, спаўна зараз праяўляюцца ў яго дзеяннях. Аб гэтым дружна гавораць калегі Мікалая Пятровіча. А той, у сваю чаргу, з непрытоенай шчырасцю расказвае пра калектыў, яго месца і ролю ў перабудове, якая пачалася ў Савецкай краіне. Але найбольш і найахвотней будаўнікі гавораць пра работу. Сур'ёзнае перасыпаецца смешным і лёгкім.

Сем гадоў назад калектыў Фінскага перавялі з галоўнага аб'екта на другі — тэрміновы. Масква і яшчэ некалькі гарадоў СССР, у тым ліку беларуская сталіца, рыхтаваліся да летняй Алімпіяды-80. І брыгадзе даверылі рэканструкцыю аднаго з алімпійскіх аб'ектаў — мінскага стадыёна «Дынама». На здачы яго ў эксплуатацыю прысутнічалі спецыялісты са Швецыі. Адзін з іх, празеўшы рукою па гладкай маналітнай сцяне, адзначыў з хітрынкай: «Як у нас...» Беларускія будаўнікі не засталіся ў даўгу: «Гэта ў вас, як у нас...»

Уласна кажучы, дзеля такой вось шчырай, цёплай гутаркі з рабочымі і было ў мяне моцнае жаданне асабістай сустрэчы з імі. Жаданне ўбачыць іх твары. Пачуць галасы. Кароткая была гэтая сустрэча: будаўнічкоў чакалі неадкладныя работы, бадай, на самым значным і адказным у іх біяграфіях аб'екце — Палацы рэспублікі, які ўрачыста расчыніць свае дзверы напярэдадні 46-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Расказ пра Палац заслугоўвае асобнага матэрыялу, які «Голас Радзімы» абавязкова падрыхтуе для сваіх чытачоў пасля завяршэння работ. Упэўнены, што будзе там яшчэ раз слова і пра брыгаду Фінскага.

**Міхась СТЭЛЬМАК.**

№ 4 (1990), 22 студзеня 1987 г.

*ІСПАНЕЦ ПАСЯЛІЎСЯ Ў БЕЛАРУСІ*

# СЯБАР НАШАГА ЗЕМЛЯКА

Жыве ў Мінску на вуліцы Васілія Сядых чалавек незвычайнага лёсу: іспанец па нацыянальнасці — грамадзянін СССР. Гэта Антоніо Арнас. Родам са сталіцы Іспаніі — Мадрыда. Сын пекара. Спачатку вучыўся, потым, калі падрос, каб зарабіць сабе на хлеб, пайшоў працаваць кур'ерам. А праз нейкі час уладкаваўся ў адну з гарадскіх друкарань. Вывучыў там наборную справу, пасля самастойна асвоіў прафесію механіка паліграфічных машын.

Там жа, у друкарні, ён упершыню сустрэўся з падпольшчыкамі - камуністамі. Пад іх уплывам неўзабаве стаў членам маладзёжнай прагрэсіўнай арганізацыі. Цяпер ужо і сам Антоніо з галавой акунуўся ў падпольную работу. Палітычная актыўнасць прывяла яго ў камуністычную партыю.

У 1936 годзе, калі іспанскія фалангісты - фашысты паднялі мяцеж і рэспубліканцы выступілі на абарону свабоды, Антоніо Арнас вымушаны быў пакінуць друкарню і пайсці вучыцца ваеннай справе. Накіравалі яго ў групу падрыхтоўкі лётчыкаў.

А ўжо праз шэсць месяцаў Антоніо адправіўся ў першы баявы палёт. Разам з іх колькасцю рос і вопыт. Скора яго паставілі на чале пятай эскадрыллі рэспубліканскай авіяцыі, а камандзірам суседняй, чацвёртай, быў Сяргей Грыцавец.

Славуты савецкі лётчык Сяргей Грыцавец — ураджэнец Беларусі. Нарадзіўся непадалёку ад Баранавіч. Першым у нашай краіне быў двойчы ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза. У час грамадзянскай вайны ў Іспаніі добраахвотнікам змагаўся ў інтэрнацыянальных брыгадах на баку рэспубліканцаў. Тут і сышліся шляхі двух мужных людзей. У знак баявой дружбы Грыцавец падарыў Арнасу свой лётны шлем, які Антоніо абавязкова потым браў з сабою, адпраўляючыся на чарговае заданне як своеасаблівы талісман.

Арнас змагаўся з фашыстамі да апошняга дня грамадзянскай вайны, пакуль не прыйшлося пакінуць Іспанію. З той пары яго новай радзімай стаў Савецкі Саюз. Але і тут нядоўга давялося жыць у міры. Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Іспанец Антоніо Арнас ідзе добраахвотнікам на фронт. Было яму ў той час толькі дваццаць шэсць. А вось цяжкіх выпрабаванняў, на якія шчодрым быў яго лёс, хапіла б іншаму на цэлае жыццё. Арнаса накіравалі ў авіяцыйную часць, дзе даверылі таксама эскадрыллю. Знішчальнікаў.

Такім чынам, баявы шлях Антоніо Арнаса складаецца з дзвюх войнаў з фашыстамі — іспанскімі і нямецкімі. У агульным выніку — сотні паветраных баёў, больш двух дзесяткаў збітых варожых самалётаў. У Краіне Саветаў ён застаўся назаўсёды. Месцам жыхарства Антоніо выбраў спачатку беларускі горад Баранавічы. Чаму? Вы, вядома, здагадаліся. Тут паблізу былі родныя мясціны Сяргея Грыцаўца, яго баявога сябра, якога не стала яшчэ ў трыццаць дзевятым. У Баранавічах жыў яшчэ бацька Сяргея, Іван Іванавіч, з якім у Антоніо склаліся вельмі добрыя адносіны.

Пасля пераезду на жыхарства ў сталіцу нашай рэспублікі Арнас стаў працаваць на паліграфічным камбінаце. Выйшаўшы на пенсію, працягваў займацца гра[illegible]скай работай. Часта прым[illegible] ўдзел у сустрэчах з беларускай моладдзю і асабліва са школьнікамі мінскай сярэдняй школы № 22, размешчанай на вуліцы Грыцаўца. Ёсць у школе музей, багаты экспанатамі, якія расказв[illegible] пра жыццё сябра нашага славутага земляка. Самы непасрэдны ўдзел у яго стварэнні прымаў Антоніо Арнас.

Шчасліва склаўся лёс іспанца, які пасяліўся ў Савецкім Саюзе. Ніколі не адчуваў ён тут ушчымлення ў грамадзянскіх правах. Дзве яго дачкі, ужо даўно дарослыя, павыходзілі замуж. І абедзве за беларусаў. Чацвёра ўнукаў у Антоніо Арнаса. Зразумелая іх цікавасць да краіны далёкіх продкаў, і таму яны часта просяць дзеда расказаць пра яго першую радзіму.

**Ю. САДОЎСКІ,**
**Е. САДОЎСКАЯ.**



# II. «МІР» — ГАСПАДАРКА ВЯДОМАЯ

**Саўгас-камбінат «Мір» штогод атрымлівае не менш чым па 6 мільёнаў рублёў прыбытку. Прыкладна палова гэтых сродкаў накіроўваецца на развіццё сацыяльнай сферы гаспадаркі. Усе работнікі тут бясплатна атрымалі ад саўгаса добраўпарадкаванае жыллё, у пасёлку пабудаваны гандлёвы цэнтр, Дом культуры, вадасховішча, ёсць дзіцячы сад, дзве школы — сярэдняя агульнаадукацыйная і дзіцяча-юнацкая спартыўная...**

**Вонкавы выгляд пасёлка і тое, як жывуць тут людзі, таксама выклікае захапленне замежных гасцей. Бывае, праўда, іх здзіўляюць рэчы, якія даўно сталі для нас звычайнымі. Фермераў з Вялікабрытаніі, напрыклад, здзівіла, што работнікі саўгаса, як і прамысловыя рабочыя, працуюць восем гадзін у дзень і маюць два выхадныя. Дзіўна толькі, чаму пра гэта не напісалі ў сваіх газетах англійскія журналісты, яны ж таксама былі тут.**





**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі фальклорнага ансамбля «Вячоркі»; у дзіцячым садзе саўгаса; заняткі па дзюдо ў дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе праводзіць Генадзь МУРАШКА.**

**Фота А. Т[illegible]ЧКІ.**

*НА ПРОСТОРАХ РОДИНЫ*

# ИСПОЛЬЗОВАНИЕ ЭНЕРГИИ ВЕТРА

Недавно на Апшеронском полуострове начала действовать ветроэлектрическая установка (ВЭУ) нового типа — с вертикально расположенными лопастями и ортогональной по отношению к скорости ветра осью вращения. Ее мощность — 7,5 киловатта. Она оснащена асинхронным генератором с конденсаторными батареями в цепи статора, а также тиристорной схемой управления, позволяющей автоматически подключать генератор установки к электрической сети. Создавшие ВЭУ специалисты считают ее использование весьма эффективным.

Лопасти новой ВЭУ имеют высоту два метра. Они изготовлены из вертолетных винтов, расположены на вершине трехметровой стойки и вращаются в горизонтальной плоскости с частотой 88-90 оборотов в минуту. Сейчас на установке проводятся научные работы, цель которых — разработка новых технических решений по преобразованию ветромеханической энергии в электрическую, а также исследования поведения ветродвигателя при различных ветровых режимах.

Баку, расположенный на Апшеронском полуострове, оправдывает свое название «город ветров». Редкий день, когда здесь нет ветра. Использованием его энергии на Апшероне занимаются с давних пор. Местные крестьяне применяли большое количество кустарных ветродвигателей для полива своих огородов. И хотя они были маломощными, примитивной конструкции, тем не менее пользовались большой популярностью у земледельцев. А в 1933 году, на тринадцатый год после установления в республике Советской власти, была предпринята попытка очертить на карте Азербайджана зоны с наиболее высокими среднегодовыми скоростями ветра. В послевоенные годы ученые республики завершили составление ветроэнергетического кадастра — свода численных характеристик ветра, на основании которых можно судить о производительности и режимах работы ветроэнергетических агрегатов.

Недавно ученые уточнили этот кадастр по Апшеронскому полуострову и выявили, что он и прибрежная зона республики являются высокопотенциальным ветроэнергетическим регионом, пригодным для строительства и эксплуатации ветроэлектрических установок больших мощностей. Специалисты определили, что в районах севернее Баку среднегодовая скорость ветра составляет 7-8 метров в секунду. С увеличением высоты она возрастает и на высотах 50-80 метров уже составляет 9-11 метров в секунду. Это именно те высоты, на которых будут находиться рабочие органы ВЭУ больших мощностей. Как подсчитано, ВЭУ мощностью 6 мегаватт в условиях Апшерона выработает в год около 9-10 миллионов киловатт часов электроэнергии, или, другими словами, сэкономит 7-8 тысяч тонн условного топлива, сжигаемого на тепловых станциях. Специалисты уже выбрали возвышенности на Апшероне, где можно разместить несколько десятков таких установок.

В ближайшем будущем азербайджанские ученые должны решить проблемы надежности отдельных узлов агрегата с учетом сильных порывов ветра. Предполагается определить условия максимального использования энергии ветра во всем диапазоне рабочих скоростей, закончить проверку устройств автоматического регулирования и стабилизации, предназначенных для обеспечения высокого качества выдаваемой в сеть энергии. Будет также проверена в действии электромеханическая система с тиристорным преобразователем частоты, позволяющая с максимальным КПД преобразовывать энергию на валу ветродвигателя в электрическую в различных режимах его работы.

По окончании этих работ специалисты предполагают начать строительство мощных промышленных ветроустановок на Апшероне.

**Рауф МУСТАФАЕВ,**
**кандидат технических наук, заведующий отделом Азербайджанского НИИ энергетики.**
(АПН).

## ЭКОЛОГИЧЕСКОЕ ВОСПИТАНИЕ ПОДРАСТАЮЩЕГО ПОКОЛЕНИЯ

# ЛЕСУ, ЗЕМЛЕ, ПРИРОДЕ

**Проблемы охраны окружающей среды стали сегодня особенно актуальными. И хотя в одних странах они ощущаются в меньшей степени, в других — в большей, ими тем не менее одинаково обеспокоены все. Поэтому не случайно, что вопросы экологического воспитания выдвинулись в последнее время в разряд наиболее значимых. Все большее внимание уделяется им и в нашей республике. С юных лет человеку прививается чувство любви и бережного отношения к природе.**

### ЧТОБЫ ПРИРОДА СТАЛА ДРУГОМ

Если полистать учебники, по которым занимаются наши школьники, нетрудно заметить, что практически каждый предмет (будь то география или биология, математика или геометрия, физика или химия) по-своему открывает юному человеку окружающий его мир природы. Конечно, если ограничиться только этим, то вряд ли можно достичь желаемой цели — воспитать в человеке экологическую культуру. Поэтому сегодня в школах республики используют самые разнообразные формы и методы экологического обучения. Расскажу лишь о некоторых из них.

В 34-й минской школе, например, я познакомился с работой так называемого центра экологического воспитания школьников, которым руководит преподаватель биологии В. Рабушко. Традиционными стали здесь конкурсы плакатов на тему: «Охраняй природу!», весной и осенью проводятся конкурсы на лучший букет полевых цветов. Ученики старших классов выступают перед младшими школьниками с докладами по вопросам охраны лесов, рек, животных, знакомят с природой родного края. А летом ребята занимаются очисткой пригородных лесов, убирают мусор, поваленные деревья. Во время каникул многие школьники выезжают в колхоз и работают в поле.

Большую роль в деле экологического воспитания подрастающего поколения играют и клубы «Юных лесоводов» (их еще называют школьными лесничествами), которые действуют во многих школах республики. Первый такой клуб был создан еще в 1961 году в Речицком районе Гомельской области. Сейчас их насчитывается уже более тысячи, и объединяют они почти 80 тысяч учеников. Ребята ухаживают за лесом и питомниками, выявляют и берут под охрану плантации редких растений, места обитания зверей и птиц, занесенных в национальную Красную книгу. По заданию научных учреждений школьники проводят различные опыты и эксперименты (это прежде всего и привлекает в клубы детей), которые находят потом практическое применение в работах ученых.

### БОЛЬШАЯ ПОЛЬЗА ОТ МАЛОЙ АКАДЕМИИ

Среди различных клубов, где минские школьники любят проводить свое свободное время, Республиканская станция юных натуралистов — одно из самых популярных мест. Но до недавнего времени ее могли посещать лишь столичные школьники. А несколько лет назад была создана Белорусская малая лесная заочная академия, в которой занимаются преимущественно ребята сельских школ республики. На протяжении трех лет они изучают науку о лесе и его обитателях. Руководят их учебной преподаватели факультета лесного хозяйства Белорусского технологического института. Получая по почте задания, ребята выполняют их и отправляют в академию. Пишут также рефераты, контрольные, курсовые и дипломные работы. А летом всех учеников собирают на две недели в Минске. В пригородном лесном хозяйстве технологического института преподаватели проводят с ними практические занятия, читают лекции по вопросам рационального использования, возобновления и охраны лесного, растительного, животного мира.

Я однажды встречался с этими ребятами и был приятно удивлен их знаниями. В экологических проблемах они разбираются лучше некоторых взрослых людей. Когда я заговорил с ними о книге англичанина Роберта Алена «Как спасти землю», в которой популярно изложена всемирная стратегия охраны природы, оказалось, что многие мои собеседники также читали ее.

И еще один примечательный факт: почти 80 процентов выпускников этой заочной академии выбрали для себя профессии лесовода, агронома, биолога. Несомненно, это будут хорошие специалисты, неравнодушные работники. А именно такие нужны лесу, земле, природе.

**Сергей ОНУПРИЕНКО.**

## *ГЛАВНАЯ ТЕМА ЖУРНАЛИСТКИ ОЛЬГИ ЕГОРОВОЙ*

# ОБРАЩАЯСЬ К ПАМЯТИ ОТЦОВ

**Среди удостоенных недавно премии Ленинского комсомола Белоруссии — журналистка Ольга Егорова, сотрудница всесоюзной молодежной газеты «Комсомольская правда». Она получила звание лауреата за серию очерков о Великой Отечественной войне.**

Некоторые считают, что война — не самая подходящая тема для женщины, взявшей в руки перо. Тем более, если журналистка родилась почти через десять лет после Победы. Что может рассказать она, ничего не пережившая, своим сверстникам? Поверят ли ей бывшие солдаты, их жены, сестры?

Когда я задал Ольге такие непростые вопросы, они не застали ее врасплох. Тридцать лет назад она задала эти вопросы самой себе.

Ольга родилась в России, в небольшом приволжском городе Вольске. В нем, по сути дела, на каждой улице — «свой» Герой Советского Союза. А в домах сохранились фотографии веселых молодых парней, не вернувшихся с полей войны.

После школы Ольга поехала учиться в Белоруссию. В нашей республике война не обошла ни один двор. Каждый четвертый житель погиб, 9 200 городов и сел было сожжено.

В белорусскую военную литературу входила тогда плеяда молодых авторов. Они не знали, не помнили войну непосредственно, но, пережив судьбу народа как свою собственную, смогли подняться в осознании страшной трагедии до уровня очевидцев.

Прозаик Виктор Козько был самым молодым — трехлетним узником освобожденного в 1944 году концлагеря Озаричи. Драматург Алексей Дударев, публицистка Светлана Алексиевич родились в начале пятидесятых, но создали потрясающие по своей правдивости произведения. Они-то во многом и укрепили решимость Ольги Егоровой взяться за перо. Отбросив колебания, она совершила поступок, воспринятый поначалу окружающими как необдуманная поспешность: всего за три семестра до окончания Белорусского политехнического института Егорова бросила учебу, чтобы снова выдержать лихорадку абитуриентских экзаменов, и... стала первокурсницей факультета журналистики.

К военным событиям, считает Ольга, должны обращаться и молодые журналисты, и писатели, и скульпторы, и художники. И тема эта, как боль, не может быть ни женской, ни мужской. Она — общечеловеческая.

Очерки Ольги Егоровой не просто рассказывают о прошедшей войне. Они — ее отражение в умах и сердцах сегодняшней молодежи: яркие, жизнеутверждающие повествования, проникнутые чувством долга перед теми, кто завоевал Победу. В каждом очерке два «главных героя» — ветеран и целое послевоенное поколение, остро сопереживающее судьбу отцов, поколение активное, готовое отстоять завоеванный мир. По сути дела это очерки о том, как молодые люди понимают события прошедшей войны, что они знают о ней, об их отношении к войне и миру вообще, о формировании под влиянием недавней истории их мировоззрения.

В такой высокогражданской позиции автора и заключается, помоему, секрет успеха публикаций Егоровой. Первым, кому она показывала черновики своих очерков, был отец. Фронтовик, он до конца своих дней не порывал связи с однополчанами. Многие из них, кстати, стали героями публикаций Ольги. Через 38 лет после Победы отца не стало: умер от пули, ранившей его в 1943 году... Это случилось накануне очередной встречи фронтовиков в Ленинграде. На нее вместо отца поехала Ольга. Там познакомилась с женщиной-санинструктором, вынесшей Егорова после ранения из боя, спасшей ему жизнь. Если бы не она, ни отца, ни Ольги не было бы.

С таких вот открытий в собственной судьбе, с осмысления повседневных военных подвигов и начиналась ее работа над каждым новым очерком.

Планы у Ольги большие....

— Я бы хотела попробовать затронуть каждую проблему, возникающую в жизни, — говорит она. — Но пока главной для всех нас остается сохранение мира. А главной темой моей работы — прошедшая война. Память о ней должна «сработать» против возможности войны грядущей, как ударная волна далекого, но мощного взрыва способна погасить занимающийся пожар.

**Владимир МУРИН. (АПН).**



**Путь в профессию для многих минских старшеклассников начинается с межшкольного учебно-художественного комбината. И сейчас он собрал около 900 мальчиков и девочек, которые любят рисовать, лепить, моделировать. Воспитать у детей эстетический вкус, дать необходимые навыки и подкрепить их теоретическими знаниями входит в задачу комбината. В программе занятий школьников — лекции, беседы о формах искусства, посещение художественных выставок и обсуждение представленных на них работ и, конечно же, собственное творчество.**

**НА СНИМКЕ: в выставочном зале комбината девятиклассницы 153-й минской школы Наташа МАРМЫЛЬ (справа) и Наташа БАБУК знакомятся с лучшими работами выпускников.**

**Фото В. МЕЖЕВИЧА.**

# ЦИФРЫ И ФАКТЫ

**Комсомол — массовая самодеятельная общественно-политическая организация советской молодежи — был создан в 1918 году. В первое время он объединял не больше 20 тысяч молодых людей, сегодня — около 42 миллионов юношей и девушек в возрасте от 14 до 28 лет. 34,7 процента из них — рабочие, 7,3 — колхозники, 16,7 — служащие. Остальные — учащиеся школ, училищ, техникумов, вузов.**

* * *

**Молодым людям принадлежит 22 процента депутатских мандатов в высшем органе власти страны — Верховном Совете СССР и почти 34 процента — в местных органах власти.**

* * *

**Конституция СССР предоставляет самой массовой молодежной организации Советского Союза — комсомолу — право законодательной инициативы: вносить на обсуждение в органы власти проекты законов и нормативных актов, связанных с решением различных проблем молодежи.**

* * *

**Молодые работники составляют большинство в химической, электронной, радиотехнической промышленности, точном машиностроении и других отраслях советской экономики, определяющих научно-технический прогресс.**

* * *

**Для детей, подростков и молодежи в Советском Союзе издается около 250 газет и журналов разовым тиражом примерно 80 миллионов экземпляров на русском и других языках народов СССР. Во всех радио- и телецентрах страны имеются специальные молодежные программы. В распоряжении комсомола находятся три крупных издательства, специализирующихся на выпуске литературы для подрастающего поколения.**

**Сравнительное исследование показало, что молодые люди СССР уделяют чтению в три раза больше времени, чем их сверстники во Франции, в пять раз больше, чем в США, в десять раз больше, чем в ФРГ.**

* * *

**В СССР существуют объединения молодежи при творческих союзах — писателей, композиторов, художников, кинематографистов, журналистов. Действуют несколько сот тысяч молодежных творческих объединений, помогающих юношам и девушкам развивать инженерные и конструкторские способности, склонности к научному поиску.**

* * *

**Молодежь СССР имеет свое бюро туризма «Спутник», которое связано с 500 молодежными туристскими организациями 80 стран. Центры «Спутника» расположены в Крыму, на Кавказе, в Прибалтике, на Урале и т. д.**

* * *

**Молодежь СССР поддерживает деловые контакты с 1 350 национальными, региональными и международными организациями молодежи и студентов из 140 стран.**

Атэістычная дзейнасць гуманіста, яго дэмакратычныя погляды хутка прывялі да канфлікту з каталіцкай царквой. Спачатку, у 1686 годзе, яго адлучаюць ад царквы, а неўзабаве яго сусед Ян Бжоска, які быў вінен Казіміру значную суму, выкрадае ў Лышчынскага 15 сшыткаў рукапісу і перадае гэтыя матэрыялы віленскаму епіскапу. Духоўныя ўлады арыштоўваюць філосафа.

Ад вышэйзгаданай працы дайшлі толькі нязначныя фрагменты, але дзякуючы ім даследчыкі ў трэцім раздзеле даюць падрабязную характарыстыку поглядаў беларускага гуманіста. Ён лічыў прыроду вечнай, без пачатку і канца, і прызнаваў бясконцасць матэрыі, быў стыхійным матэрыялістам.

Адначасова К. Лышчынскі быў прыхільнікам утапічнага сацыялізму. Аб гэтым ідзе гаворка ў чацвёртым раздзеле. Аўтары пераканаўча сцвярджаюць думку аб цеснай сувязі поглядаў філосафа з ідэйнай спадчынай такіх дзеячаў эпохі Адраджэння, як Міхалон Літвін, Пятро Ганезій, Антоніо дэ Гевара.

У пятай главе расказваецца пра судовы працэс над Казімірам Лышчынскім, інспіраваны езуітамі. Нягледзячы на спробы некаторых паслоў сейма абараніць гуманіста і выратаваць яго ад пакарання смерцю, ён быў прысуджаны да спалення на вогнішчы. Потым гэты прысуд быў заменены іншым — адсячэннем галавы — і здзейснены на варшаўскім старым рынку 30 сакавіка 1689 года. Трэба адзначыць, што мужны філосаф захаваў сваю чалавечую годнасць да апошніх хвілін жыцця.

З цікавасцю чытаецца апошні раздзел кнігі, дзе падрабязна разглядаецца навуковая спадчына К. Лышчынскага і яе вывучэнне ўдзячнымі нашчадкамі. У дакастрычніцкай літаратуры пра выдатнага філосафа XVII стагоддзя аўтары выдзяляюць тры асноўныя накірункі: артадаксальна-клерыкальны, прадстаўнікі якога ўсімі сродкамі замоўчвалі і скажалі вучэнне філосафа; ліберальна-шляхецкі, які лічыў К. Лышчынскага «несапраўдным» атэістам; і дэмакратычны, дзе вызначалася сапраўднае месца гуманіста ў гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі XVII стагоддзя.

На жыццёвы шлях і дзейнасць Лышчынскага звярталі ўвагу такія пісьменнікі і паэты, як Ю. Крашэўскі, А. Крэхавецкі, нашчадак брата філосафа Леў Лышчынскі. Некалькі яго зборнікаў вершаў і манаграфію «Род дваран Лышчынскіх» удалося адшукаць аўтарам рэцэнзуемай кнігі.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў вывучэнні спадчыны гуманіста пачаўся новы этап. Першую працу ў Савецкай Беларусі, прысвечаную К. Лышчынскаму, напісаў у 1927 годзе прафесар Белдзяржуніверсітэта В. Друшчыц.

Некалькі публікацый пра філосафа з'явілася ў 60-70-я гады. Ёсць і мастацкія творы на гэту тэму: верш Кастуся Цвіркі «Казімір Лышчынскі», апавяданне Уладзіміра Арлова «Місія папскага нунцыя», аповесць Кастуся Тарасава «Літасць для атэіста, альбо вандраванне ў цесным коле». У Гродне ў студзені-маі 1985 года з нагоды 350-й гадавіны з дня нараджэння К. Лышчынскага адбылася мастацкая выстаўка. На ёй было прадстаўлена некалькі дзесяткаў работ — плакаты, гравюры, медалі і партрэты. Вывучаюць спадчыну філосафа і гуманіста вучоныя суседніх рэспублік, асабліва Расіі і Літвы.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

*НАШ КАЛЯНДАР*

# ПАТРЫЯРХ БЕЛАРУСКАГА ПЕСЕННАГА МАСТАЦТВА

Мусіць, ніводная згадка пра Рыгора Шырму не абыходзіцца без слоў: «Песня стала спадарожніцай яго жыцця з маленства» або: «Яго імя мы перш за ўсё звязваем з беларускай народнай песняй».

Народныя песні Рыгор Шырма палюбіў яшчэ ў дзяцінстве, калі ўпершыню пачуў іх ад маці, а потым ад сялян-аднавяскоўцаў у Шакунах, невялікай беднай вёсцы на Брэстчыне, дзе ён нарадзіўся ў студзені 1892 года. Першым заробкам пяцігадовага хлапчука быў цяжкі хлеб пастушка. Рана прачнулася ў яго душы і прага да навукі. Рыгор Шырма скончыў сельскую школу, Пружанскае гарадское вучылішча, настаўніцкую семінарыю і Седлецкі настаўніцкі інстытут. Працаваў настаўнікам, быў выкладчыкам у прыватнай гімназіі для беларусаў у Вільні.

Рыгор Шырма абышоў і аб'ехаў амаль усю Беларусь, запісаў больш як дзве тысячы песень. Ужо ў савецкі час выдаў два тамы харавых апрацовак народных песень.

Яшчэ ў 20-я гады Р. Шырма арганізаваў у Пружанах беларускі народны хор. У Вільні кіраваў хорам беларускай гімназіі. У 1940 годзе, пасля таго як Заходняя Беларусь была вызвалена з-пад улады буржуазнай Польшчы, Рыгор Шырма стварыў прафесійны беларускі ансамбль песні і танца, стаў яго кіраўніком. У 1955 годзе ансамбль быў перайменаваны ў Дзяржаўную харавую капэлу БССР, а цяпер яна носіць імя свайго стваральніка — Рыгора Шырмы. У тым жа годзе патрыярху беларускага мастацтва першаму сярод хормайстраў краіны было прысвоена высокае званне народнага артыста СССР. Дзе б ні выступала капэла — у беларускай вёсцы ці ў Маскве, на Далёкім Усходзе ці за мяжой — ёй заўсёды спадарожнічаў поспех. На працягу амаль 30 гадоў нязменным кіраўніком калектыву быў Р. Шырма.



Яшчэ адной гранню таленавітай натуры гэтага незвычайнага чалавека была літаратура. Яму належыць уступнае слова ў першай кніжцы Максіма Танка «На этапах» і публіцыстычныя артыкулы пра Пушкіна, Талстога, Горкага, Коласа, праблемныя разважанні пра народную волю і лёс культуры малацых нацый. У 1976 годзе выйшаў з друку зборнік «Песня — душа народа», дзе змешчаны друкаваныя і вусныя выступленні Рыгора Шырмы ў розныя часы яго жыцця, пачынаючы з 1928 і да апошніх год жыцця.

Рыгор Шырма вёў вялікую грамадскую работу. Ён быў старшынёй праўлення Саюза кампазітараў БССР, сакратаром праўлення Саюза кампазітараў СССР, выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Імя Рыгора Шырмы добра ведалі і нашы землякі, якія з ім сустракаліся, атрымлівалі ад яго пісьмы. На працягу многіх гадоў ён узначальваў у нас у рэспубліцы арганізацыю, якая падтрымлівае культурныя сувязі з беларусамі па-за межамі Бацькаўшчыны. На пасадзе старшыні прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма» ён праяўляў нястомны клопат пра тое, каб не рвалася ніточка, што звязвае суайчыннікаў з роднай зямлёй.

Заслугі Рыгора Шырмы высока ацэнены Радзімай. Яму было прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы. Ён быў узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, ордэнамі Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны».

ПОГЛЯД НА ПРАБЛЕМУ

# АД МОЦАРТА ДА ЦЯЖКАГА РОКА

— Нашы захаплен... Безумоўна, сучасная музыка!

—А што такое сучасная музыка?

— Мне здаецца, — цяжкі рок.

Такі ці прыкладна такі дыялог сёння можна лічыць найбольш тыповым пры апытаннях з мэтай вывучэння музычных густаў і запатрабаванняў нашай моладзі, тых, каму ад чатырнаццаці да дваццаці пяці. Так, зараз у краіне, і ў нашай рэспубліцы ў тым ліку, поп-музыка пераважае сярод музычных густаў, прыхільнасцей сучасных юнакоў і дзяўчат. Гала-канцэрты ў шматтысячных залах і нават на стадыёнах, дыскатэкі сталі найбольш масавымі відамі «спажывання» музыкі моладдзю. Такім чынам, Моцарт — устарэў? Чайкоўскі — несучасна гучыць? А «Лявоніха» маладосці нашых бабуль і дзядуль ужо больш не натхняе?

Не выключаю, што нехта з маладых адкажа: так, устарэў, несучасна гучыць, не натхняе. І гэта насцярожвае савецкіх педагогаў, дзеячаў культуры, прапагандыстаў сур'ёзнай музыкі. Але ці значыць гэта, што акрамя рока і модных шлягераў наступныя пакаленні нічога не будуць мець за душой?!

Меркаваць аб стане эстэтычнага выхавання моладзі толькі па колькасці прададзеных нотных папак ці фламастэраў, натуральна, немагчыма. Хаця і гэта аб нечым сведчыць. Але вось тое, напрыклад, што ў Беларусі апошнім часам штогод адкрываюцца дзесяткі калгасных музычных школ, — факт красамоўны. Ці яшчэ: адным з самых папулярных інструментаў, на якім вучацца іграць беларускія дзеці, застаецца баян. Таму, сутыкаючыся сёння з праблемамі ў галіне музычнага выхавання юнакоў і дзяўчат (а гэтага адмаўляць нельга), нашы выхавацелі не схільны бездапаможна разводзіць рукамі.

Якім жа чынам плануецца перакрыць стаўшую даволі шырокай плынь музычнага дылетантызму моладзі? Спецыялісты шукаюць адказ на гэта вельмі няпростае пытанне ў практыцы.

Сёння пра старажытны Полацк гавораць як пра адзін з галоўных і найбольш цікавых музычных цэнтраў рэспублікі. З адкрыццём сапраўды унікальнай канцэртнай залы ў Сафійскім саборы, а ў дадатак яшчэ і залы, размешчанай у карцінннай галерэі ў Багаяўленскім саборы, горад атрымаў шчаслівую магчымасць чуць і бачыць такіх славутасцей, як спевакі Віргіліус Нарэйка і Святлана Данілюк, арганісты Алег Янчанка і Аляксандр Фісейскі. З кастрычніка 1985 года, калі Сафійка ўпершыню запрасіла аматараў музыкі на канцэрт, тут ужо пабывала каля ста тысяч слухачоў. Колькі ж сярод іх моладзі? Дакладныя падлікі не вяліся, але што з кожным канцэртам усё больш і больш — безумоўна. Арганізатары канцэртаў у Полацку добра разумеюць, што сапраўднага слухача трэба рыхтаваць, выхоўваць. Інакш, аднойчы трапіўшы (галоўным чынам з-за цікаўнасці) на арганны вечар, другі раз ён ужо не прыйдзе. І вось нарадзіўся цэлы цыкл гутарак-канцэртаў для школьнікаў пад назвай «Пра што раскажа інструмент-аркестр?» Іх аўтар — арганістка, салістка канцэртнай залы Вівіяна Сафраніцкая, дарэчы, сама зусім яшчэ маладая жанчына. Гэтыя сустрэчы адбываліся летась. У цяперашнім сезоне своеасаблівае музычнае навучанне працягваецца: старшакласнікі, студэнты тэхнікумаў і вучылішчаў знаёмяцца з арганнай музыкай Расіі мінулага стагоддзя. Распрацаваны тут і курс музычнай асветы для працоўнай моладзі. Пакуль пра нейкія асаблівыя вынікі распачатай у Полацку работы казаць зарана. Але пэўныя набыткі ўжо ёсць: напрыклад, у сярэдняй ш[illegible] № 3 горада сто хлопчыкаў і дзяўчынак маюць пастаянныя абанементы на канцэрты ў Сафійскі сабор на сезон 1986—1987 года.

У Мінску створаны даволі незвычайныя грамадскія аб'яднанні: дзіцячая і маладзёжная філармоніі. Яны займаюцца арганізацыяй і прапагандай музычнай творчасці юных і для юных. У хуткім часе спраў у актывістаў абедзвюх філармоній значна пабольшае: пачнецца падрыхтоўка да Першага Рэспубліканскага свята песні, якое мяркуецца ў 1989 годзе.

А пакуль, у канцы мінулага года, сотні юных спевакоў запоўнілі глядзельную залу Белдзяржфілармоніі. Так-так, не толькі сцэну, але ўсю залу. Чыста і звонка гучаў іх шматгалосы хор. Выконваліся творы рускіх і савецкіх кампазітараў, народныя песні. Канцэрт стаў своеасаблівай прэлюдыяй да будучага свята. А каб ён адбыўся, у рэспубліцы пачалі клапаціцца загадзя. На Беларусі з'явіліся школы з харавым ухілам. Цяпер такіх навучальных устаноў у Мінску паўтара дзесятка. Ёсць яны і ў іншых гарадах.

Вось і атрымліваецца, што новая ў нас музычная традыцыя закладваецца менавіта моладдзю, тымі, каму яе развіваць і перадаваць далей.

Але як усё ж такі быць з амаль павальным захапленнем самымі разнастайнымі рокамі?

Трэба сказаць, што з густамі моладзі наша грамадства заўсёды лічылася і лічыцца, тым больш, што здаровая маральная аснова ўсё ж перамагае тое мітуслівае і наноснае, што часта ўсплывае на паверхню. Сёння ў Мінску, усюды ў рэспубліцы ўзнікае нямала маладзёжных рок-груп. Ніхто іх не забараняе: калі ласка, працуйце, тварыце. А ў працэсе работы маладыя музыканты самі пачынаюць разумець і адчуваць: поспех прыходзіць да тых, хто не проста выступае са сцэны, а каму ёсць што сказаць сваім равеснікам. Так некалькі дзесяткаў год назад атрымалася са славутай «чацвёркай з Ліверпуля», якая здолела знайсці агульны інтарэс, агульныя тэмы, агульную мову з такімі ж простымі рабочымі хлопцамі з партовых кварталаў, як яны самі. Так набыў папулярнасць таксама на дзесяткі год наш беларускі ансамбль «Песняры». Узяўшы за аснову творчасці нацыянальныя народныя матывы, яго ўдзельнікі стварылі цудоўныя кампазіцыі, у якіх расказвалі слухачам аб сваёй любві да роднай Беларусі, аб захапленні яе гісторыяй і сучаснасцю. Трымаецца на грэбені славы таксама ўжо больш за дзесяць год вельмі любімая савецкімі хлопцамі і дзяўчатамі «Машына часу» і кіраўнік гэтага калектыву, спявак і кампазітар Андрэй Макарэвіч. Для чатырох удзельнікаў рок-групы тое, пра што яны гавораць у песні, пераважае над тым, як гэта робіцца. Можа, тут і схаваны сакрэт іх папулярнасці?

Маладзёжная музыка выхоўвае не толькі пэўныя эстэтычныя густы, яна значна ўплывае на фарміраванне сацыяльнага аблічча асобы. І мы разумеем, што тая хваля нізкапробнай, бездухоўнай музычнай масавай культуры, асабліва амерыканскай і заходнееўрапейскай, што захліснула амаль увесь свет, не можа не адбіцца ў нейкай ступені і на густах савецкай моладзі: робяць сваю справу сродкі масавай інфармацыі. Трэба мець, што проціпаставіць гэтаму. Але разам з тым... Многа хто можа прыгадаць, як, апынуўшыся ў далёкіх краях, шчодра пакаштаваўшы, здавалася б, самых найсмачнейшых тамашніх ласункаў, раптам вельмі захоча жытняга хлеба ці смажанай бульбы — нечага свайго, роднага. Спытайце, што пяюць маладыя турысты пад гітару ля кастра на беразе Нёмана, госці на вясковым вяселлі, студэнты на святочнай першамайскай дэманстрацыі? Яны спяваюць тое, чаму можа падпець душа.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

Раіса БАРАВІКОВА

# КАЗКА ПРА ЦУД-МАСТАКА І БЛАКІТНУЮ ВЕЖУ

Жыў на свеце мастак. Быў ён малады, прыгожы і вясёлы. Прачнуўся аднаго ранку мастак, выйшаў на ганак роднае хаты і ажно засмяяўся ад задавальнення: пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд... Радасна стала мастаку: столькі цяпла было ў гэтым мілым куточку!.. Раптам ён бачыць: народ валам валіць, музыкі ў бубны б'юць, смех, гоман, песні...

— Што такое? — пытаецца ў маці мастак. А маці яму адказвае:

— Гэта, дзетачка, наш кароль жэніцца! Маладую жонку ў свой палац вязе!

Выбег мастак на вуліцу, пачаў пытацца ў людзей:

— Пакажыце!.. Дзе кароль?!. Дзе кароль з маладою жонкай?!.

І неўзабаве пабачыў карэту, а ў ёй караля і яго маладую жонку. І такою яна яму прыгажуняй здалася, што пачаў мастак яе маляваць, проста на дарозе вішнёвым кіёчкам...

Раззлаваўся кароль, загадаў сваім стражнікам, каб кінулі мастака ў цямніцу, што знаходзілася ў Блакітнай вежы аднаго з каралеўскіх палацаў, які стаяў далёка-далёка на адзінокай скале, з усіх бакоў абкружаны сінім морам. Людзі казалі, што туды нават птушкі не даляталі. Аддаў кароль свой загад, ды й забыўся пра мастака. Год прайшоў, дзесяць, ужо і пятнаццаты год мінаецца, а мастак усё сядзіць у Блакітнай вежы.

— Гэй, варта! — крыкнуў аднойчы мастак. — Пятнаццаты год я знаходжуся ў гэтай вежы і ніводнага разу за гэты час мая нага не ступала на зямлю. Выпусціце мяне хоць на хвілінку!..

І варта выпусціла мастака ў маленечкі каменны дворык. «Які ён шэры і халодны, гэты дворык! — падумаў мастак. — Хоць бы адзін зялёны лісточак мільгануў на ім ці прабілася хоць бы адна кволая зялёная травінка!..» Але не было ні зялёнай травінкі на дворыку, ні зялёнага лісточка... Цяжка ўздыхнуў мастак, гледзячы на халодны камень, і ўбачылася яму далёкае, што назаўсёды засталося ў памяці. Ён уявіў, як пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд... І о дзіва!.. Гэты малюнак, які мастак уявіў сабе, пачаў ажываць... Мастак працёр вочы, малюнак не знікаў, ён рабіўся ўсё больш і больш выразным, ды такім, што можна было палічыць кветкі на самай блізкай вішнёвай галінцы... «Гэта міраж!.. Міраж!» — закрычаў мастак. Ён упаў на халодны камень і горка-горка заплакаў, а побач усё яшчэ пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, і трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд...

Варта з жахам прыцiскалася да сцяны Блакітнай вежы:

—Гэты мастак—чарадзей! Ён — чарадзей! — перапалохана крычалі стражнікі. — Ён намаляваў малюнак у паветры!..

Яны схапілі мастака і зноў павялі ў Блакітную вежу, а вечарам, як толькі сонца схавалася за сіняе мора, стражнікі вырашылі паслаць ганца да караля, каб расказаць, якое дзіва-дзіўнае ім давялося бачыць...

Тры дні і тры ночы плыў ганец па сінім моры, два дні і дзве ночы ішоў ганец па сушы, нарэшце, убачыў ён каралеўскі палац, а побач натоўп вялікі, і вельмі хвалююцца людзі, крычаць, рукамі размахваюць... Прабраўся ганец праз натоўп да каралеўскага палаца, чуе: стражнікі каралеўскія людзей у войска запісваюць... Тут і дазнаўся ганец, што суседні кароль на іх каралеўства вайною пайшоў і неўзабаве быць бітве вялікай. Падышоў ганец да стражнікаў!

— Вядзіце мяне, — кажа, — да караля.

І як толькі апынуўся ганец у пакоі, дзе сядзеў на сваім троне кароль, дык адразу і расказаў яму ўсё, ш[illegible]едаў і пра мастака, які д[illegible]ль знаходзіўся ў Блакітна[illegible] вежы, і пра яго малюнак у [illegible]этры...

Спачатку кароль [illegible]ззлаваўся, закрычаў з усяе сілы:

— Хто дазволіў мастака выпускаць у дворык?! Н[illegible] гэта не было майго карале[illegible]га дазволу!..

А потым, як засмяяўся, ажно з трона каралеўскага саскочыў! Падбег да ганца, абняў яго, закрычаў радасна:

— Малайчына!.. З добраю весткай да мяне прыйшоў!..

І ў тое ж імгненне склікаў кароль да сябе ўсіх сваіх міністраў і расказаў ім пра мастака і яго паветраны малюнак, і яшчэ такія словы сказаў кароль:

— Калі змог мастак намаляваць у паветры клён, і вішнёвы садок, і катка-мурлыку, і нават маці сваю... Значыцца, ён зможа намаляваць у паветры і цэлае войска... Тады ніякі суседні кароль нам не страшны... Як убачаць ворагі, якая сіла ідзе на іх, якая моц, дык адразу наўцёкі кінуцца з поля бітвы!.. — і закрычаў кароль: — Загадваю! Каб праз дзесяць дзён і дзесяць начэй мастак быў дастаўлены ў мой каралеўскі палац!..

Так яно і здарылася... На адзінаццаты дзень стаяў мастак перад каралём і слухаў яго загад:

— Заўтра на Сымонавым полі пачнецца бітва... Маё войска сустрэнецца з войскам суседняга караля!.. Таму загадваю табе, нявольніку Блакітнай вежы, намаляваць перад маім войскам яшчэ адно войска, ды такое вялікае, каб вораг, пабачыўшы яго, адразу кінуўся наўцёкі!

— Але ж я не змагу гэтага зрабіць! — сказаў мастак каралю, ды кароль нават і не слухаў яго. Ён загадаў стражнікам на тры замкі закрыць мастака, а назаўтра на самым досвітку вывесці яго на Сымонава поле і паставіць перад каралеўскім войскам. І ледзь толькі развіднела, як стражнікі адамкнулі ўсе тры замкі і павялі мастака на Сымонава поле, і загадалі хутчэй маляваць у паветры войска... Паглядзеў мастак перад сабою, бачыць: на ўзгорку варожае войска стаіць, чуе: трубы звіняць, а воі ў бой просяцца... Азірнуўся мастак назад, бачыць каралеўскае войска, і, можа, у гэтым войску яго браты ці суседзі стаяць... Зашчымела сэрца ў мастака, глядзіць ён на каралеўскіх вояў — і што ні твар, то ўсё нібыта знаёмы вельмі... А калі паглядзеў па баках, дык увогуле стала горка мастаку, аж зайшлося сэрца... Трава наўкола шуміць, сонца толькі-толькі ўзнімаецца, жыта непадалёку, здаецца, на вачах падрастае, і быццам нават перапёлка крычыць у ім... І павеяла на мастака такім блізкім, такім родным, што ўміг уявілася яму тое даўняе, далёкае, калі пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд...

І о дзіва!.. Ажно сам мастак падзівіўся, так блізенька затрапятала ў паветры вішнёвая галінка. Яму нават здалося, што пялёсткі ціхенька ападаюць на зямлю, а маці адклала свой посуд і паглядзела ў вочы яму, і далей, дзе стаялі воі караля, і сярод іх, можа, былі яго браты ці суседзі... І кожны з вояў адчуў на сабе гэты позірк, і тады кожны яшчэ мацней узяўся за зброю...

Тут загрымелі трубы, пачалася вялікая бітва, і сам мастак кінуўся ў самую гушчу яе, і ўвесь час, пакуль ён біўся з ворагам, яму ўсё бачылася, як пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд...

У той бітве войска караля перамагло! Варожыя салдаты беглі хто куды наўцёкі, а сам кароль так узрадаваўся, што тут жа на Сымонавым полі аддаў загад сваім стражнікам адпусціць мастака на волю.

І пайшоў мастак за Сымонава поле, пайшоў дарогамі і лугамі туды, дзе яго чакала хаціна, дзе пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, і трошкі далей цвіў вішнёвы садок, а ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд...

## крынічка



Мама будзе задаволена...

Максім БАГДАНОВІЧ

### ЗІМОЙ

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.
Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.
Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.
Ўзрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

*1910 г.*

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

### БЭКІ-МЭКІ

Сеў казёл на верталёт,
Паляцеў у агарод...
Каза[illegible]ома засталася
І с[illegible]мі залілася,
Хац[illegible] муж, як той камар,
Не заблытаўся між хмар.
Недалёкая дарога,
А трывогі гэтак многа.
Дзесяць вёсак, дзесяць сёл,
Праляцеў стары казёл
Апусціў свой верталёт
Не ў капусту, а ў чарот,
Ледзь у багне не ўтануў,
Цераз дзесяць вёсак, сёл
Барадой сівой матнуў.
Зноў ляціць стары казёл
На радзіму, у свой хлеў.
Ад старання аж спацеў.
Пryляцеў, казу абняў.
Задаволена радня,
Многа радасці было,
Весялілася сяло.
Будзе ў памяці навекі,
Як скакалі бэкі-мэкі.

Васіль ХОМЧАНКА

## САМЫ ЛЕПШЫ МАЛЮНАК

Маці падмятала падлогу, а Пеця сядзеў за сталом і маляваў.

— Мама, я цябе намалюю, — сказаў ён.

— Намалюй.

І Пеця намаляваў маці з венікам у руках.

Потым маці чысціла пыласосам дываны. А Пеця таксама яе маляваў.

Прыбраўшы ў кватэры, маці памыла на кухні посуд, наскрэбла бульбы. Пеця намаляваў яе і за гэтай працай.

Усе малюнкі расфарбаваў каляровымі алоўкамі. Прыгожая атрымалася маці.

Прыйшоў бацька з работы. Пеця адразу ж да яго, пахваліўся:

— Тата, зірні, якую я маму намаляваў. Вось яна падлогу падмятае, а вось — з пыласосам. А тут талеркі мые. Праўда, я добра намаляваў?

— Добра.

— А які самы лепшы малюнак?

— Той, які ты не намаляваў, — адказаў бацька.

— Які ж гэта?

— Дзе і ты памагаеш маме прыбіраць кватэру, мыць посуд, бульбу скрэбці. А не толькі малюеш.

## ДЗІЦЯЧАЯ ЛОГІКА

Пяцігадовы Дзіма прыйшоў з мамай да ўрача. Выслухаўшы хлопчыка, урач сказала:

— Які ты сур'ёзны! Усміхнуўся б разок, глядзіш — і хвароба прайшла б. Я вось прапішу табе замест лякарства — смех, і ты адразу паправішся.

Выпісаўшы рэцэпт, урач аддала яго маме. Калі выйшлі на вуліцу, Дзіма спытаў:

— Мама, а калі мне лепш смяяцца: да яды ці пасля?

* * *

— Тата, які веласіпед хутчэй ездзіць: двух- ці трохколавы? — спытаў чатырохгадовы Гена.

— Па-мойму, двухколавы.

— Не, трохколавы, — запярэчыў Гена. — У яго ж на адно кола больш.

* * *

Мама гатуе абед. Каля яе круціцца трохгадовы Арцёмка.

— Арцём, ідзі ў пакой, на кухні вельмі душна.

— Не, не пайду. Тут смачней дыхаць.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Зак. 79.